В. ГАУФ



# Карлік Нос

ДВБ—1938

В. ГАУФ

# КАРЛІК НОС

Пераклад з рускай мовы



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ДЗІЦЯЧАЯ ЛІТАРАТУРА
МЕНСК—1938

У адным вялікім германскім горадзе жыў калісьці шавец Фрыдрых са сваёй жонкай Ханнай. Увесь дзень ён сядзеў на вуліцы і клаў латкі на чаравікі і туфлі. Ён і новыя чаравікі браўся шыць, калі хто заказваў, але тады яму прыходзілася спачатку купляць скуру,—запасці тавар загадзя грошай у яго не было.

А Ханна прадавала на рынку плады і гародніну са свайго маленькага агарода. Яна была жанчына ахайная і ўмела прыгожа раскласці тавар; таму ў яе заўсёды было многа пакупнікоў.

У Ханны і Фрыдрыха быў сын Якаў—стройны, прыгожы хлопчык, досыць высокі для сваіх дванаццаці год. Звычайна ён сядзеў каля маткі на базары. Калі які-небудзь повар або кухарка куплялі ў Ханны адразу многа гародніны, Якаў дапамагаў ім данесці пакупку да дому і рэдка варочаўся назад з пустымі рукамі. Пакупнікі Ханны любілі прыгожага хлопчыка і амаль заўсёды дарылі яму што-небудзь: кветку, піражнае або манетку.

Аднойчы Ханна, як заўсёды, гандлявала на базары. Перад ёй стаяла некалькі карзін з капустай, бульбай, карэннямі і ўсякай зе-

ленню. Тут-жа ў маленькай карзінцы красаваліся раннія ігрушы, яблыкі, абрыкосы. Якаў сядзеў каля Ханны і гучна крычаў:

— Сюды, сюды, павары, кухаркі! Вось добрая капуста, зелень, ігрушы, яблыкі! Каму трэба? Маці дзёшава аддасць!

І раптам да іх падышла якаясьці бедна апранутая бабуля з маленькімі чырвонымі вочкамі, вострым зморшчаным ад старасці тварыкам і доўгім-доўгім носам, які спускаўся да самага падбародка. Яна апіралася на касталь, і дзіўна было, што яна наогул можа хадзіць,—яна кульгала, слізгала і пераваль- валася, нібы ў яе на нагах былі калёсы. Здавалася, вось-вось яна ўпадзе і ткнецца сваім вострым носам у зямлю.

Ханна з цікавасцю глядзела на бабулю. Вось ужо амаль шаснаццаць год, як яна гандлюе на базары, а такой дзівачнай бабулькі яшчэ ні разу не бачыла. Ёй нават крыху страшна зрабілася, калі бабуля спынілася каля яе карзіны.

— Гэта вы—Ханна, гандлярка гароднінай?—спытала бабуля скрыпучым голасам, увесь час трасучы галавой.

— Так,—адказала жонка шаўца.—Вам трэба што-небудзь купіць?

— Убачым, убачым,—прамармытала сабе пад нос бабуля.—Зелень паглядзім, карэньчыкі паглядзім. Ці ёсць яшчэ ў цябе тое, што мне патрэбна...

Яна нагнулася і стала шукаць сваімі доўгімі карычневымі пальцамі ў карзіне з пучкамі зелені, якія Ханна расклала так прыгожа і аку-



Дрэнны тавар!.. Дрэнная капуста!..

ратна. Возьме пучок, паднясе да носа і абнюхвае з усіх бакоў, а за ім—другі, трэці.

У Ханны прама сэрца разрывалася—да таго ёй цяжка было глядзець, як бабуля абыходзіцца з яе зеленню. Але яна не магла сказаць ёй ні слова—пакупнік-жа мае права аглядаць тавар. Апрача таго, яна ўсё больш і больш баялася гэтай бабулі.

Пераварушыўшы ўсю зелень, бабуля выпрамілася і прабурчала:

— Дрэнны тавар!.. Дрэнная зелень!.. Нічога няма з таго, што мне патрэбна. Пяцьдзесят год назад было куды лепш!.. Дрэнны тавар! Дрэнны тавар!

Гэтыя словы раззлавалі маленькага Якава.

— Гэй, ты, несумленная бабуля!—крыкнуў ён.—Перанюхала ўсю зелень сваім доўгім носам, перамяла карэньчыкі каравымі пальцамі, так што цяпер іх ніхто не купіць, і яшчэ лаешся, што дрэнны тавар! У нас сам герцагскі повар купляе.

Бабуля скоса паглядзела на хлопчыка і сказала хрыплым голасам:

— Табе не падабаецца мой нос, мой прыгожы доўгі нос? І ў цябе такі-ж будзе, да самага падбародка!

Яна падкацілася да другой карзіны з капустай, вынула з яе некалькі цудоўных белых качаноў і так сціснула іх, што яны жаласна затрашчалі. Потым яна так-сяк пакідала качаны зноў у карзіну і зноў прагаварыла:

— Дрэнны тавар!.. Дрэнная капуста!..

— Ды не трасі ты так агідна галавой!—закрычаў Якаў.—У цябе шыя не таўшчэй ка-

чарыжкі, таго і глядзі абломіцца і твая галава ўпадзе ў нашу карзіну. Хто ў нас тады штонебудзь купіць?

— Дык у мяне, па-твойму, вельмі тонкая шыя?—сказала бабуля, усё таксама-ж усміхаючыся.—Ну, а ты будзеш зусім без шыі. Галава ў цябе будзе тырчаць проста з плеч,—па крайняй меры, не зваліцца з цела.

— Не кажыце хлопчыку такога глупства,—сказала, нарэшце, Ханна, не на жарты разззлаваўшыся.—Калі вы хочаце што-небудзь купіць, дык купляйце хутчэй. Вы ў мяне разгоніце ўсіх пакупнікоў.

Бабуля сярдзіта паглядзела на Ханну.

— Добра, добра,—прабурчала яна.—Няхай будзе па-твойму. Я вазьму ў цябе гэтыя шэсць качаноў капусты. Але толькі ў мяне ў руках кастыль, і я не магу сама нічога несці. Няхай твой сын данясе мне пакупку да дому. Я яго добра ўзнагароджу за гэта.

Якаву вельмі не хацелася ісці, і ён нават заплакаў—ён баяўся гэтай страшнай бабулі. Але маці строга загадала яму слухацца,—ёй здавалася грэшна прымушаць старую, слабую жанчыну несці такі цяжар. Выціраючы слёзы, Якаў паклаў капусту ў карзіну і пайшоў следам за бабуляй.

Яна ішла не вельмі хутка, і прайшла амаль гадзіна, пакуль яны дабраліся да якойсьці дальняй вуліцы на ўскраіне горада і спыніліся перад маленькім поўразбураным домікам. Бабуля вынула з кішэні якісьці заіржаўлены кручок, спрытна ўсунула яго ў дзірачку дзвярэй і раптам дзверы з шумам расчыніліся.

Якаў увайшоў і застыў на месцы ад здзіўлення: столь і сцены ў доме былі мрамарныя, крэслы, стулы і сталы—з чорнага дрэва, упрыгожанага золатам і каштоўнымі каменнямі, а падлога была шкляная і да таго гладкая, што Якаў некалькі разоў пaслізгнуўся і ўпаў.

Бабуля прыклала да губ маленькі срэбраны свісток і неяк па-асабліваму, раскацiста свіснула, так што свісток затрашчаў на ўвесь дом. І зараз-жа па лесніцы быстра пабеглі ўніз марскія свінкі—зусім незвычайныя марскія свінкі, якія хадзілі на двух лапках, замест чаравік у іх былі арэхавыя шкарлупкі, і апрануты гэтыя свінкі былі зусім як людзі—нават капелюшы не забылі захапіць.

— Куды вы дзявалі мае туфлі, нягодніцы?—закрычала бабуля і так ударыла свінак палкай, што яны з віскам падскочылі.— Ці доўга я яшчэ буду тут стаяць?..

Свінкі бегам пабеглі ўверх па лесніцы, прынеслі дзве шкарлупкі какосавага арэха на скуранай падкладцы і спрытна надзелі іх бабулі на ногі. Бабуля адразу перастала кульгаць. Яна адкінула сваю палку ўбок і быстра заслізгала па шкляной падлозе, цягнучы за сабой маленькага Якава. Яму было нават цяжка паспяваць за ёй, да таго жвава яна рухалася ў сваіх какосавых шкарлупках.

Нарэшце, бабуля спынілася ў якімсьці пакоі, дзе было многа ўсякай пасуды. Гэта, як відаць, была кухня, хоць падлога ў ёй была ўслана дыванамі, а на канапах ляжалі вышытыя падушкі як у якім-небудзь палацы.

— Садзіся, сынок,—ласкава сказала бабуля і пасадзіла Якава на канапу, падсунуўшы да канапы стол, каб Якаў не мог нікуды сыйсці са свайго месца.—Адпачні добра. Ты, напэўна, стаміўся. Бо чалавечыя-ж галовы—нялёгкая ноша.

— Што вы такое дзівоснае гаворыце?—закрычаў Якаў.—Стаміцца то я і сапраўды стаміўся, але я нёс не галовы, а качаны капусты. Вы купілі іх у маёй маткі.

— Гэта ты няверна гаворыш,—сказала бабуля і засмяялася. І, раскрыўшы карзіну, яна выцягнула з яе за валасы чалавечую галаву.

Якаў ледзь не ўпаў—да таго спалохаўся. Ён зараз-жа падумаў аб сваёй мацеры. Калі-ж хто-небудзь даведаецца пра гэтыя галовы, на яе мігам данясуць, і ёй прыдзецца дрэнна.

— Патрэбна цябе яшчэ ўзнагародзіць за тое, што ты такі паслухмяны,—казала далей бабуля.—Пацярпі крыху, я звару табе такі суп, што ты яго да смерці ўспамінаць будзеш.

Яна зноў свіснула ў свой свісток, і на кухню прымчаліся марскія свінкі, апранутыя, як людзі,—у фартухах, з паварэшкамі і кухеннымі нажамі за поясам. За імі прыбеглі ваверкі—многа ваверак, таксама на двух нагах; яны былі ў шырокіх шараварах і зялёных аксамітных шапачках. Гэта, відаць, былі павараты. Яны быстра-быстра карабкаліся па сценах і прыносілі да пліты міскі, скавародкі, яйкі, масла, карэнні і муку. А ля пліты мітусілася, катаючыся ўзад і ўперад на сваіх какосавых шкарлупах, сама бабуля—ёй, відаць,

вельмі хацелася зварыць для Якава што-небудзь добрае. Агонь пад плітой разгараўся ўсё мацней, на скавародках штосьці шыпела і дымілася, па пакою разносіўся прыемны, смачны пах. Бабуля кідалася то сюды, то туды і раз-по-разу совала ў гаршок з супам свой доўгі нос, каб паглядзець, ці не гатова яда.

Нарэшце, у гаршку штосьці заклекатала і забулькала, з яго павалiў пар, і на агонь палілася густая пена. Тады бабуля зняла гаршок з пліты, адліла з яго супу ў сярэбраную міску і паставіла яе перад Якавам.

— Еш, сынок,—сказала яна.—Паеш гэтага супу і будзеш такі-ж прыгожы, як я. І поварам добрым зробішся—трэба-ж табе ведаць якое-небудзь рамяство. Толькі чароўнай траўкі ты ніколі не знойдзеш.

Якаў не вельмі добра разумеў, што гэтая бабуля мармыча сабе пад нос, ды і не слухаў яе—больш быў заняты супам. Маці часта гатавала для яго ўсякія смачныя рэчы, але нічога лепшага за гэты суп яму яшчэ не прыходзілася каштаваць. Ад яго так добра пахла зеленню і карэннямі, ён быў і салодкі, і кіславаты, і да таго-ж вельмі навaрысты.

Калі Якаў амаль ужо даеў суп, свінкі запалілі на маленькай жароўні якоесьці курэнне з прыемным пахам, і па ўсім пакоі паплылі воблакі блакітнаватага дыму. Ён рабіўся ўсё гусцей і гусцей, усё шчыльней і шчыльней ахутваў хлопчыка, так што ў Якава, нарэшце, закружылася галава. Дарэмна ён казаў сабе, што яму час варочацца да маткі, дарэмна

спрабаваў стаць на ногі. Варта было яму прыпадняцца, як ён зноў падаў на канапу— да таго яму раптам захацелася спаць. Не прайшло і пяці мінут, як ён і сапраўды заснуў на канапе, у кухні брыдотнай бабулі.

І ўбачыў Якаў дзіўны сон. Яму прыснілася, быццам бабуля зняла з яго вопратку і загарнула яго ў скуру вавёркі. Ён навучыўся прыгаць і скакаць, як вавёрка, і пасябраваў з іншымі вавёркамі і свінкамі—усе яны былі вельмі добрыя.

І стаў Якаў, як яны, прыслугоўваць бабулі. Спачатку яму прышлося быць чысцільшчыкам абутку. Ён павінен быў змазваць маслам какосавыя шкарлупкі, якія бабуля насіла на нагах, і так націраць іх анучкай, каб яны блішчэлі. Дома Якаву часта прыходзілася чысціць туфлі і чаравікі, так што справа хутка пайшла ў яго на лад. Прыкладна праз год яго перавялі на другую, больш цяжкую пасаду. Разам з некалькімі іншымі вавёркамі ён вылаўліваў пылінкі з сонечнага праменя і прасейваў іх праз самае дробнае валасяное сіта, а потым з іх пяклі для бабулі хлеб. У яе ў роце не асталося ні аднаго зуба, і таму вось ёй і прыходзілася есці булкі з сонечных пылінак, мякчэй якіх, як усе ведаюць, няма нічога на свеце.

Яшчэ праз год Якаву было даручана здабываць бабулі ваду для піцця. Вы думаеце, у яе быў выкапан у двары калодзеж або пастаўлена вядро, каб збіраць у яго дажджавую ваду? Не, звычайнай вады бабуля і ў рот не брала. Якаў з вавёркамі збіралі ў арэха-

выя шкарлупкі расу з кветак, і бабуля толькі яе і піла. А піла яна вельмі многа, так што работы ў ваданосаў было па горла.

Прайшоў яшчэ год, і Якаў перайшоў служыць у пакоі—чысціць падлогі. Гэта таксама аказалася не вельмі лёгкай справай—падлогі-ж былі шкляныя, на іх дыхнеш, і то відаць. Якаў чысціў іх шчоткамі і націраў суконкай, якую накручваў сабе на ногі.

На пяты год Якаў пачаў працаваць на кухні. Гэта была работа ганаровая, да якой дапускалі з разборам, пасля доўгага выпрабавання. Якаў прайшоў усе пасады—ад паваронка да старшага піражнага майстра— і зрабіўся такім спрактыкаваным і ўмелым поварам, што нават сам з сябе дзівіўся. Чаго толькі ён не навучыўся гатовіць? Піражныя двухсот сартоў, супы з усіх траў і карэнняў, якія ёсць на свеце,—усё ён умеў прыгатаваць быстра і смачна.

Так Якаў пражыў у бабулі гадоў сем. І вось аднойчы яна надзела на ногі свае арэхавыя шкарлупкі, узяла кастыль і карзіну, каб ісці ў горад, і загадала Якаву да свайго звароту аскубці курыцу, начыніць яе зеленню і добра падрумяніць. Якаў зараз-жа ўзяўся за работу. Ён адкруціў птушцы галаву, ашпарыў яе ўсю кіпятком, спрытна аскуб з яе пер'е, выскраб скуру, так што яна зрабілася далікатная і бліскучая, і вынуў унутранасці. Потым яму спатрэбіліся травы, каб начыніць імі курыцу. Ён пайшоў у кладоўку, дзе захоўвалася ў бабулі ўсякая зелень, і ўзяўся адбіраць тое, што яму было патрэбна. І раптам ён убачыў у

сцяне кладоўкі маленькую шафку, якой раней ніколі не заўважаў. Дзверцы шафкі былі прыадчынены. Якаў з цікаўнасцю зазірнуў у яго і бачыць—там стаяць якіясьці маленькія карзіначкі. Ён адкрыў адну з іх і ўбачыў у ёй дзівосныя травы, якія яму яшчэ ніколі не пападаліся. Сцяблы ў іх былі зеленаватыя, і на кожнай сцяблінцы была яркачырвоная кветка з жоўтым абадком. Якаў паднёс адну кветку да носа і раптам адчуў знаёмы запах—такі-ж, як у супа, якім бабуля накарміла яго, калі ён да яе прышоў. Пах быў да таго моцны, што Якаў гучна чыхнуў некалькі разоў і прачнуўся.

Ён з здзіўленнем азірнуўся вакол і ўбачыў, што ляжыць на той-жа канапе, у кухні бабулі.

«Ну, і сон-жа гэта быў! Прама быццам наяве!—падумаў Якаў. Вось дык матка пасмяецца, калі я ўсё гэта ёй раскажу! І пападзе-ж мне ад яе за тое, што я заснуў у чужым доме, замест таго, каб вярнуцца да яе на базар!»

Ён быстра ўскочыў з канапы і хацеў бегчы да маткі, але адчуў, што ўсё цела ў яго нібы драўлянае, а шыя дык зусім здрантвела—ён ледзь-ледзь мог варухнуць галавой. Якаў да таго адурэў са сну, што яму нават смешна зрабілася. Ён раз-по-разу задзяваў носам за сцяну або за шафу, а раз, калі быстра павярнуўся, нават моцна выцяўся аб дзверы.

Вавёркі і свінкі бегалі вакол Якава і пішчалі—відаць, ім не хацелася яго адпускаць. Выходзячы з дому бабулі, Якаў паманіў іх

за сабой—яму таксама было шкада з імі рас-ставацца,—але яны быстра пабеглі назад у пакоі на сваіх шкарлупках, і хлопчык доўга яшчэ чуў здалёк іх жаласны віск.

Домік бабулі, як мы ўжо ведаем, быў далёка ад рынка, і Якаў доўга прабіраўся вузкімі, звілістымі завулкамі, пакуль не дабраўся да рынка. На вуліцах таўпілася вельмі многа народу. Дзесьці паблізу, мабыць, паказвалі карліка, таму што ўсе вакол Якава крычалі.

— Паглядзіце, вось агідны карлік! Адкуль ён узяўся, гэты карлік? Ну, і доўгі-ж у яго нос! А галава прама на плячах тырчыць, без шыі. А рукі-ж, рукі, паглядзіце,—да самых пятак!

Якаў у другі час з задавальненнем пабег-бы паглядзець на карліка,—ён вельмі любіў глядзець розных калек, якіх паказвалі на кірмашы. Але сёння яму было не да таго—патрэбна было спяшацца да маткі.

Нарэшце, Якаў дабраўся да рынка. Ён досыць такі пабойваўся, што яму пападзе ад мацеры. Ханна ўсё яшчэ сядзела на сваім месцы, і ў яе ў карзіне было нямала яшчэ гародніны—значыць, Якаў праспаў не асабліва доўга. Ужо здалёк ён заўважыў, што яго маці чымсьці засмучана. Яна сядзела моўчкі, падпершы рукой шчаку, бледная і сумная.

Якаў доўга стаяў, не адважваючыся падыйсці да маткі. Нарэшце, ён сабраўся з духам і, падкраўшыся да яе ззаду, паклаў ёй руку на плячо і сказаў:

— Мама, што з табой? Ты на мяне злуешся?

Ханна павярнулася і, убачыўшы Якава, ускрыкнула ад жаху.

— Што табе трэба ад мяне, страшны карлік?—закрычала яна.—Адыйдзі, адыйдзі! Я не цярплю такіх жартаў!

— Што ты, матуля?—спалохана сказаў Якаў.—Ты, мабыць, нездарова. Чаму ты праганяеш мяне?

— Кажу табе, ідзі сваёй дарогай!—сярдзіта крыкнула Ханна.—Ад мяне ты нічога не атрымаеш за свае штукі, агідны ўрод.

«Яна звар'яцела!—падумаў бедны Якаў.— Як мне цяпер завесці яе дамоў?»

— Мамачка, паглядзі-ж на мяне добра,— сказаў ён, чуць не плачучы.—Я-ж твой сын, Якаў.

— Не, гэта ўжо вельмі!—закрычала Ханна, звяртаючыся да сваіх суседак.—Паглядзіце на гэтага жудаснага карліка! Ён адпужвае ўсіх пакупнікоў ды яшчэ смяецца над маім горам. Кажа: я твой сын, твой Якаў,—нягоднік гэтакі!

Гандляркі, суседкі Ханны, разам ускочылі на ногі і пачалі лаяць Якава:

— Як ты смееш жартаваць над яе горам! Яе сына ўкралі сем год назад. А які хлопчык быў—прама карцінка! Убірайся зараз-жа, а не—мы табе вочы выдзерам.

Бедны Якаў не ведаў, што надумаць. Ён-жа сёння раніцой прышоў з маткай на базар і дапамагаў ёй раскласці гародніну, потым аднёс да бабулі дамоў капусту, зайшоў да яе, паеў у яе супу і крыху паспаў і вось цяпер вярнуўся. А гандляркі кажуць пра нейкія сем

год. І яго, Якава, называюць агідным карлікам. Што-ж з імі такое здарылася?

Са слязмі на вачах пайшоў Якаў з рынка. Раз маці не хоча яго прызнаваць, ён пойдзе да бацькі.

«Паглядзім,—думаў Якаў.—Няўжо і бацька таксама прагоніць мяне? Я стану ля дзвярэй і загавару з ім».

Ён падышоў да крамы шаўца, які, як заўсёды, сядзеў там і працаваў, стаў каля дзвярэй і зазірнуў у краму. Фрыдрых так быў заняты работай, што спачатку не заўважыў Якава. Але раптам ён выпадкова падняў галаву, выпусціў з рук бот, шыла і дратву і ўскрыкнуў:

— Што гэта такое? Што гэта такое?

— Добры вечар, гаспадар,—сказаў Якаў і ўвайшоў у краму.—Як жывеце?

— Дрэнна, панок мой, дрэнна!—адказаў шавец, які таксама, відаць, не пазнаў Якава. Работа зусім не ладзіцца. Мне ўжо многа год, а я адзін—каб наняць падмайстэр'я, грошай нехапае.

— А хіба ў вас няма сына, які мог-бы вам дапамагчы?—спытаў Якаў.

— Быў у мяне адзін сын—Якавам яго звалі,—адказаў шавец.—Цяпер было-б яму гадкоў дваццаць. Ён-бы здорава падтрымаў мяне. Яму-ж усяго дванаццаць год было, а такі быў разумны! І ў рамястве ўжо штосьці кеміў, і прыгажун быў пісаны. Ён-бы ўжо сумеў прываніць заказчыкаў, не прышлося-б мне цяпер класці латкі—адны-б но-

вые чаравікі шыў. Ды ўжо, відаць, мой лёс такі!

— А дзе-ж цяпер ваш сын?—нясмела спытаў Якаў.

— Пра тое адзін бог ведае,—адказаў з цяжкім уздыхам шавец.—Вось ужо сем год прайшло, як яго ўкралі ў нас на базары.

— Сем год!—з жахам паўтарыў Якаў.

— Але, панок мой, сем год. Як цяпер помню: жонка прыбегла з базара, вые, крычыць. Ужо вечар, а дзіця не вярнулася. Яна цэлы дзень яго шукала, усіх пытала, ці не бачылі,—і не знайшла. Я заўсёды казаў, што гэтым скончыцца. Наш Якаў—што праўда, то праўда—быў прыгожае дзіця; жонка ганарылася ім і часта пасылала яго аднесці добрым людзям гародніну або што іншае. Грэх сказаць—яго заўсёды добра ўзнагароджвалі, але я часценька казаў жонцы: «Глядзі, Ханна! Горад вялікі, у ім многа злых людзей жыве. Як-бы чаго не здарылася з нашым Якавам!» Так і вышла. Прышла ў той дзень на базар якаясьці жанчына, старая, брыдотная; выбірала, выбірала тавар і столькі нарэшце накупіла, што самой не занесці. Ханна, добрая душа, і пашлі з ёй хлопчыка. Так мы яго больш і не бачылі.

— І, значыць, з таго часу прайшло сем год?

— Вясной сем будзе. Ужо мы і аб'яўлялі аб ім і па людзях хадзілі—пыталі пра хлопчыка,—яго-ж многія ведалі, усе яго, прыгажуна, любілі,—але колькі не шукалі яго, так і не знайшлі. І жанчыну тую, што ў Ханны гародніну купляла, ніхто з таго часу не ба-

чыў. Адна старая-старая бабуля,—дзевяноста ўжо год на свеце жыве,—казала Ханне, што гэта, магчыма, злая чараўніца Крэйтэрвейс, што прыходзіць у горад раз у пяцьдзесят год закупляць правізію.

Так расказваў бацька Якава, пастукваючы малатком па боту і выцягваючы ў кулаку доўгую дратву. Цяпер, нарэшце, Якаў зразумеў, што з ім здарылася. Значыць, ён не ва сне гэта бачыў, а сапраўды сем год быў вавёркай і служыў у злой чараўніцы. У яго прама сэрца разрывалася з дасады. Сем год жыцця ў яго ўкрала бабуля, а што ён за гэта атрымаў? Навучыўся чысціць какосавыя шкарлупкі і націраць шкляныя падлогі ды ўсякія смачныя стравы навучыўся гатаваць.

Доўга стаяў ён на парозе крамы, не кажучы ні слова. Нарэшце, шавец спытаў яго:

— Можа быць, вам што-небудзь у мяне спадабалася, пан? Ці не возьмеце пару туфель або хоць-бы,—тут ён раптам пырснуў са смеху,—футляр для носа?

— А што такое з маім носам?—сказаў Якаў.—Нашто мне для яго футляр?

— Воля ваша,—адказаў шавец,—але будзь у мяне такі жудасны нос, я-б, асмелюся сказаць, хаваў яго ў футляр—у добры футляр з ружовай лайкі. Зірніце, у мяне якраз ёсць падыходзячы кавалачак. Праўда, на ваш нос спатрэбіцца нямала скуры, але затое як вам будзе зручна, панок мой! Вы-ж, мабыць, часценька задзяваеце носам за дзверы.

Якаў ні слова не мог сказаць ад здзіўлення. Ён памацаў сабе нос: нос быў тоўсты і доўгі—

чвэрці ў дзве, не менш. Відаць, злая бабуля, праўда,ператварыла яго ва ўрода. Вось чаму маці не прызнала яго.

— Гаспадар,—чуць не плачучы сказаў ён,— ці няма ў вас тут люстэрка? Мне трэба паглядзецца ў люстэрка, абавязкова трэба!

— Сказаць па праўдзе, пан,—адказаў шавец,—не такі ў вас выгляд, каб было чым ганарыцца. Няма чаго вам кожную мінуту глядзецца ў люстэрка. Кіньце гэтую прывычку! Вам вось яна ўжо зусім не да твару.

— Дайце, дайце мне хутчэй люстэрка!— узмаліўся Якаў.—Запэўняю вас, мне вельмі патрэбна. Я, праўда, не з ганарыстасці...

— Ды ну вас зусім! Няма ў мяне люстэрка!—раззлаваўся шавец.—У жонкі было адно малюсенькае, ды не ведаю, куды яна яго падзела. Калі ўжо вам так не церпіцца на сябе паглядзець—вунь, супраць, крама цырульніка Урбана. У яго ёсць люстэрка, разы ў два большае за вас. Глядзіцеся ў яго, колькі вам трэба. А затым пажадаю вам добрага здароўя.

І шавец лёганька выштурхнуў Якава з крамы і зачыніў за ім дзверы. Якаў быстра перайшоў праз вуліцу і ўвайшоў да цырульніка, якога ён раней добра ведаў.

— Добрай раніцы, Урбан,—сказаў ён.— У мяне да вас вялікая просьба. Будзьце ласкавы, дазвольце мне паглядзецца ў вашае люстэрка.

— Зрабіце ласку—вунь яно стаіць, у левым прасценку!—крыкнуў Урбан і гучна рассмяяўся.—Палюбуйцеся, палюбуйцеся на сябе!







Вы-ж сапраўдны прыгажунчык—тоненькі, стройны, шыя лебядзіная, рукі нібы ў каралевы, а носік курносенькі, лепшага няма на свеце. Вы, вядома, крыху ім фарсіце, ну, ды ўсёроўна, паглядзіце на сябе. Няхай не кажуць, што я з зайздрасці не дазволіў вам паглядзецца ў маё люстэрка.

Набедвальнікі, якія прышлі да Урбана брыцца і стрыгчыся, аглушальна рагаталі, слухаючы яго жарты. Якаў падышоў да люстэрка і мімаволі адхіснуўся. Слёзы выступілі ў яго на вачах. Няўжо гэта ён—гэты ўродлівы карлік? Вочы ў яго сталі маленькія, як у свінні, велізарны нос звешваўся ніжэй падбародка, а шыі як быццам і зусім не было. Галава глыбока ўвайшла ў плечы, а ён амаль зусім не мог яе павярнуць. А ростам ён быў такі-ж, як сем год назад,—зусім маленькі. Іншыя хлопчыкі за гэтыя гады выраслі ўверх, а Якаў рос ушырыню. Спіна і грудзі ў яго былі шырокія-прашырокія, і ён быў падобен на вялікі, шчыльна набіты мяшок. Тоненькія кароценькія ножкі ледзь неслі яго цяжкое цела. А рукі з кручкаватымі пальцамі былі, наадварот, даўгія, як у дарослага мужчыны, і звісалі амаль да зямлі. Такім быў цяпер небарака Якаў.

«Так,—падумаў ён, глыбока ўздыхаючы.—Не дзіўна, што ты не прызнала свайго сына, матуля. Не такім ён быў раней, калі ты любіла хваліцца ім перад суседкамі».

Яму ўспомнілася, як бабуля падышла ў тую раніцу да яго маткі. Усё, над чым ён тады смяяўся,—і доўгі нос і брыдкія пальцы—

атрымаў ён ад бабулі за свае насмешкі. А шыю яна ў яго адняла, як абяцала...

— Ну, што, уволю наглядзеліся на сябе, мой прыгажунчык?—спытаў са смехам Урбан, падыходзячы да люстэрка і аглядваючы хлопчыка з ног да галавы.—Чэснае слова, такога смешнага карліка і ва сне не ўбачыш. Ведаеце, малыш, я хачу прапанаваць вам адну справу. У маёй цырульні бывае многа народу, але не так многа, як раней. А ўсё таму, што мой сусед, цырульнік Шаум, раздабыў сабе дзесьці велікана, які прымацьвае да яго наведвальнікаў. Ну, стаць веліканам, наогул кажучы, ужо не так хітра, а вось такі крошка, як вы—гэта іншая справа. Паступайце да мяне на службу, малыш. І жыллё, і харч, і вопратку—усё ад мяне будзеце атрымліваць, а работы ўсяго—стаяць ля дзвярэй цырульні і заклікаць народ. Ды, бадай, яшчэ ўзбіваць мыльную пену і падаваць ручнік. І, напэўна вам скажу, мы абодва астанемся ў выгадзе: у мяне будзе больш наведвальнікаў, чым у Шаума з яго веліканам, а вам кожны яшчэ на чаёк дасць.

Якаў у душы вельмі пакрыўдзіўся—як гэта яму прапануюць быць прыманкай у цырульні!—але што зробіш? Прыходзілася сцярпець гэтую знявагу. Ён спакойна адказаў, што вельмі заняты і не мае часу для такой работы, і пайшоў.

Хоць цела ў Якава было скалечана, але галава працавала добра, як раней. Ён адчуў, што за гэтыя сем год зрабіўся зусім дарослым.

«Не тое бяда, што я стаў уродам,—разважаў ён, ідучы па вуліцы.—Крыўдна, што і бацька і маці прагналі мяне ад сябе, як сабаку. Паспрабую яшчэ раз пагаварыць з маткаю. Можа быць, яна мяне ўсё-такі пазнае».

Ён зноў адправіўся на рынак і, падышоўшы да Ханны, папрасіў яе спакойна выслухаць, што ён хацеў ёй сказаць. Ён напомніў ёй, як яго павяла бабуля, пералічыў усё, што здарылася з ім у дзяцінстве, і расказаў, што ён сем год пражыў у чараўніцы, якая ператварыла яго спачатку ў ваверку, а потым у карліка за тое, што ён над ёю пасмяяўся.

Ханна не ведала, што ёй і думаць. Усё, што казаў карлік пра сваё дзяцінства, было правільна, але каб ён сем год быў ваверкай—гэтаму яна паверыць не магла.

— Гэта немагчыма!—усклікнула яна.

Нарэшце, Ханна рашыла параіцца са сваім мужам. Яна сабрала свае карзіны і запрапанавала Якаву пайсці разам з ёю ў краму шаўца. Калі яны прышлі, Ханна сказала мужу:

— Гэты карлік кажа, што ён наш сын Якаў. Ён мне расказаў, што яго сем год назад у нас укралі і што яго зачаравала чараўніца.

— Ах, вось як!—сярдзіта перабіў яе шавец.—Ён табе, значыць, усё гэта расказаў? Пачакай, дурная! Я сам яму толькі што расказаў пра нашага Якава, а ён, бачыш, прама да цябе, і давай цябе абдурваць. Дык цябе, кажаш, зачаравалі? А ну вось я цябе зараз расчарую!..

І шавец схапіў рамень і, падскочыўшы да

Якава, так адсцёбаў яго, што хлопчык з гучным плачам выскачыў з крамы.

Цэлы дзень бадзяўся бедны карлік па гораду, не еўшы, не піўшы. Ніхто не пашкадаваў яго, і ўсе над ім толькі смяяліся. Начаваць яму прышлося на царкоўнай лесніцы, прама на жорсткіх, халодных усходах.

Як толькі ўзышло сонца, Якаў устаў і зноў пайшоў хадзіць па вуліцах.

«Як-жа я буду жыць далей?—думаў ён.— Быць шыльдай у цырульніка або паказвацца за грошы я не хачу, а маці і бацька мяне прагналі. Што-ж мне прыдумаць, каб не памерці з голаду?»

І тут Якаў успомніў, што, пакуль ён быў вавёркай і жыў у бабулі, яму ўдалося навучыцца добра гатаваць.

І ён рашыў паступіць поварам да герцага.

А герцаг, правіцель той краіны, быў вядомы аб'ядайла і ласун. Ён больш за ўсё любіў добра пад'есці і выпісваў сабе павароў з усіх канцоў зямлі.

Якаў пачакаў крыху, пакуль зусім развіднела, і накіраваўся да герцагскага палаца.

Гучна стукала ў яго сэрца, калі ён падышоў да варот палаца. Вартаўнікі спыталі яго, што яму трэба, і пачалі над ім пацяшацца, але Якаў не разгубіўся і сказаў, што хоча бачыць Галоўнага Начальніка Кухні. Яго павялі якімісьці дварамі, і ўсе, хто толькі яго бачыў, з герцагскіх слуг, беглі за ім і гучна рагаталі.

Хутка ў Якава ўтварылася велізарная світа. Конюхі пакідалі свае скрабніцы, скараходы імчаліся наперагонкі, каб не адстаць ад яго,

падлогацёры перасталі выбіваць дываны. Усе цясніліся вакол Якава, і на дварэ стаяў такі шум і гоман, нібы да горада падступілі ворагі. Усюды чуліся крыкі:

— Карлік! Карлік! Бачылі вы карліка?

Нарэшце, на двор вышаў Палацавы Наглядчык—заспаны тоўсты чалавек з вялізным бізуном у руцэ.

— Гэй, вы, сабакі! Што гэта за шум?—закрычаў ён грамавым голасам, неміласэрна б'ючы сваім бізуном па плечах і спінах конюхаў і прыслужнікаў.—Не ведаеце вы хіба, што яго светласць яшчэ спіць?

— Пан,—адказвалі вартаўнікі,—паглядзіце, каго мы да вас прывялі! Сапраўднага карліка! Такога вы яшчэ, мабыць, ніколі не сустракалі.

Убачыўшы Якава, Наглядчык зрабіў страшную грымасу і як можна шчыльней сціснуў губы, каб не рассмяяцца,—важнасць не дазваляла яму рагатаць перад конюхамі. Ён разагнаў сабраўшыхся сваім бізуном і, узяўшы Якава за руку, прывёў яго ў палац і спытаў, што яму трэба. Пачуўшы, што Якаў хоча бачыць Начальніка Кухні, Наглядчык усклікнуў:

— Няпраўда, сынок! Гэта я табе патрэбен, Палацавы Наглядчык. Ты-ж хочаш паступіць да герцага ў карлікі, ці не так?

— Не, пан,—адказаў Якаў.—Я добры повар і ўмею гатаваць усякія рэдкасныя стравы. Адвядзіце мяне, калі ласка, да Начальніка Кухні. Можа быць, ён згодзіцца выпрабаваць маё майстэрства.

— Твая воля, малыш,—адказаў Наглядчык.—Ты яшчэ, відаць, дурны, хлопец. Будзь ты прыдворным карлікам, ты мог-бы нічога не рабіць, есці, піць, весяліцца і хадзіць у прыгожай вопратцы, а ты хочаш на кухню! Але мы яшчэ паглядзім. Наўрад ці ты дастаткова ўмелы повар, каб гатаваць стравы самому герцагу, а для паваронка ты вельмі прыгожы.

Сказаўшы гэта, Наглядчык адвёў Якава да Начальніка Кухні. Карлік нізка пакланіўся яму і сказаў:

— Міласцівы пан, ці не патрэбен вам умелы повар?

Начальнік Кухні агледзеў Якава з галавы да ног і гучна разрагатаўся.

— Ты хочаш быць поварам?—усклікнуў ён.—Што-ж, ты думаеш, у нас у кухні пліты такія нізенькія? Ты-ж нічога на іх не ўбачыш, нават калі падымешся на цыпачкі. Не, мой маленькі друг! Той, хто табе параіў паступіць да мяне поварам, зрабіў з табой дрэнную штуку.

І Начальнік Кухні зноў разрагатаўся, а за ім—Палацавы Наглядчык і ўсе тыя, хто быў у пакоі. Якаў, аднак, не збянтэжыўся.

— Пан Начальнік Кухні,—сказаў ён,—вам, напэўна, не шкада страціць адно-два яйкі, крыху мукі, віна і прыпраў. Даручыце мне прыгатаваць якое-небудзь смачнае блюда і загадайце падаць усё, што мне для гэтага патрэбна. Я згатую гэтую страву быстра, ва ўсіх на вачах, і вы скажаце: «Вось гэта сапраўдны повар, як трэба».

Доўга ўгаварваў карлік Начальніка Кухні, паблiскваючы сваімі маленькімі вочкамі і ўпэўнена ківаючы галавой, і, нарэшце, Начальнік згадзіўся.

— Добра!—сказаў ён.—Давай паспрабуем, дзеля жарту! Хадзем усе на кухню—і вы таксама, пан Наглядчык Палаца!

Ён узяў Палацавага Наглядчыка пад руку і загадаў Якаву ісці за сабой. Доўга ішлі яны па якіхсьці вялікіх раскошных пакоях і доўгіх карыдорах і, нарэшце, прышлі на кухню. Гэта было высокае, прасторнае памяшканне з велізарнай плітой на дваццаць канфорак, пад якімі дзень і ноч гарэў агонь. Пасярод кухні быў басейн з вадой, у якім трымалі жывую рыбу, а на сценах стаялі мрамарныя і драўляныя шафікі, поўныя каштоўнай пасуды. Побач з кухняй, у дзесяці велізарных кладоўках, захоўваліся рознастайныя прыпасы і ласункі. Павары, паварaты, судамыйкі насіліся па кухні ўзад і ўперад, стукаючы каструлямі, скаваародкамі, лыжкамі і нажамі. Пры паяўленні Начальніка Кухні ўсе замерлі на месцы і ў кухні зрабілася зусім ціха; толькі агонь патрэскваў пад плітой, і вада папранейшаму гурчэла ў басейне.

— Што заказаў сёння пан герцаг да першага снедання?—спытаў Начальнік Кухні Галоўнага Загадчыка Снеданнямі—старога тоўстага повара ў высокім белым каўпаку.

— Яго светласць захацелі заказаць дацкі суп з чырвонымі гамбургскімі клёцкамі,— пачціва адказаў повар.

— Добра,—казаў далей Начальнік Кухні.— Ты чуеш, карлік, чаго пан герцаг хоча пад'есці? Ці можна табе даверыць такія цяжкія стравы? Гамбургскіх клёцак табе ні за што не згатаваць. Гэта—тайна нашых навароў.

— Няма нічога лягчэй,—адказаў карлік (калі ён быў вавёркай, яму часта прыходзілася гатаваць для бабулі гэтыя стравы).—Для супу дайце мне такіх вось і такіх вось траў і пранасцей, сала дзікага кабана, яек і карэння. А для клёцак,—ён загаварыў цішэй, каб яго не чуў ніхто, апрача Начальніка Кухні і Загадчыка Снеданнямі,—а для клёцак мне патрэбны чатыры сарты мяса, крыху віна, гусіны тлушч, імбір і трава, якая называецца Уцяшэнне Страўніка.

— Клянуся гонарам, правільна!—закрычаў здзіўлены повар.—Які гэта чарадзей вучыў цябе гатаваць? Ты ўсё да тонкасці пералічыў. А пра траўку Уцяшэнне Страўніка я і сам у першы раз чую ад цябе. З ёю клёцкі, напэўна, яшчэ лепшыя выйдуць. Ты прама цуда, а не повар!

— Вось ніколі-б не падумаў гэтага!—сказаў Начальнік Кухні.—Аднак, зробім выпрабаванне. Дайце яму прыпасы, пасуду і ўсё, што патрэбна, і няхай прыгатуе герцагу снеданне.

Павараты выканалі яго загад, але, калі на пліту паставілі ўсё, што было патрэбна, і карлік хацеў узяцца за гатаванне, аказалася, што ён ледзь дастае да верха пліты кончыкам свайго доўгага носа. Прышлося прысунуць да пліты два стулы; іх накрылі мрамар-

най дошкай, і карлік узабраўся на яе і пачаў гатаваць. Павары, павараты, судамыйкі шчыльным кальцом акружылі карліка і, шырока раскрыўшы вочы ад здзіўлення, глядзелі, як жвава і спрытна ён з усім упраўляецца.

Падрыхтаваўшы стравы да варкі, карлік загадаў паставіць абедзве каструлі на агонь і не здымаць іх, пакуль ён не загадае. Потым ён пачаў лічыць: раз, два, тры, чатыры—і, далічыўшы роўна да пяцісот, крыкнуў: «Досыць!».

Павараты ссунулі каструлі з агню, і карлік прапанаваў Начальніку Кухні пакаштаваць яго гатаванні. Галоўны повар загадаў падаць залатую лыжку, спаласнуў яе ў басейне і перадаў Начальніку Кухні. Той урачыста падышоў да пліты, зняў крышку з каструль, якія дыміліся, і паспрабаваў суп і клёцкі. Праглынуўшы лыжку супу, ён зажмурыў вочы ад асалоды, некалькі разоў прыцмокнуў языком і сказаў:

— Вельмі добра, вельмі добра, клянуся гонарам! Ці не хочаце і вы ўпэўніцца, пан Палацавы Наглядчык.

Наглядчык Палаца з паклонам узяў лыжку, папрабаваў і ледзь не падскочыў ад задавальнення.

— Я не хачу вас пакрыўдзіць, дарагі Загадчык Снеданнямі,—сказаў ён,—вы выдатны, спрактыкаваны повар, але такога супу і такіх клёцак вам згатаваць яшчэ не ўдавалася.

Повар таксама паспрабаваў абедзве стравы, пачціва паціснуў карліку руку і сказаў:

— Малыш, ты—вялікі майстар! Твая траўка Уцяшэнне Страўніка прыдае супу і клёцкам асаблівы смак.

У гэты час у кухні паявіўся слуга герцага і патрабаваў снеданне для свайго пана. Страву зараз-жа паклалі ў сярэбраныя талеркі і паслалі наверх. Начальнік Кухні, вельмі здаволены, павёў карліка ў свой пакой і хацеў яго распытаць, хто ён і адкуль з'явіўся. Але толькі што яны ўселіся і пачалі гутарыць, як за Начальнікам прышоў пасланы ад герцага і сказаў, што герцаг яго кліча. Начальнік Кухні хутчэй надзеў сваё лепшае плацце і адправіўся ўслед за пасланым у сталовую.

Герцаг сядзеў там, разваліўшыся ў сваім глыбокім крэсле. Ён дачыста з'еў усё, што было на талерках, і выціраў бараду шаўковай хустачкай. Яго твар ззяў, і ён соладка жмурыўся ад задавальнення.

— Паслухай вось,—сказаў ён, убачыўшы Начальніка Кухні,—я заўсёды быў вельмі здаволен тваім гатаваннем, але сёння снеданне было асабліва смачным. Скажы мне, як завуць повара, які яго гатаваў,—я пашлю яму некалькі дукатаў ва ўзнагароду.

— Пан, сёння здарылася дзіўная гісторыя,—сказаў Начальнік Кухні.

І ён расказаў герцагу, як да яго прывялі раніцой карліка, які абавязкова хоча стаць палацавым поварам. Герцаг, выслухаўшы яго расказ, вельмі здзівіўся. Ён загадаў паклі-

кацьь карліка і пачаў яго распытваць, хто ён такі. Беднаму Якаву не хацелася гаварыць, што ён сем год быў вавёркай і служыў у бабулі, але ілгаць ён таксама не любіў. Таму ён толькі сказаў герцагу, што ў яго цяпер няма ні бацькі, ні маткі і што яго навучыла гатаваць адна бабуля. Герцаг доўга пацяшаўся над дзіўным выглядам карліка і, нарэшце, сказаў яму:

— Так і быць, аставайся ў мяне! Я дам табе ў год пяцьдзесят дукатаў, адно святочнае плацце і звыш таго дзве пары штаноў. За гэта ты будзеш кожны дзень сам гатаваць мне снеданне, назіраць за тым, як гатуюць абед, і наогул загадваць маім сталом. А апрача таго, усім, хто ў мяне служыць, я даю прозвішчы. Ты будзеш называцца «Карлік Нос» і атрымаеш званне Памочніка Начальніка Кухні.

Карлік Нос пакланіўся герцагу да зямлі і падзякаваў яго за міласць, і, калі герцаг адпусціў яго, Якаў, радасны, вярнуўся на кухню. Цяпер, нарэшце, ён мог не турбавацца аб сваім лёсе і не думаць аб тым, што будзе з ім заўтра.

Ён рашыў добра аддзякаваць свайго гаспадара, і не толькі сам правіцель горада, але і ўсе яго прыдворныя не маглі нахваліцца маленькім поварам. З таго часу як Карлік Нос пасяліўся ў палацы, герцаг зрабіўся, можна сказаць, зусім іншым чалавекам. Раней яму часценька здаралася шпурляць у палароў талеркамі і шклянкамі, калі яму не падабалася гатаванне, а адзін раз ён так раззлаваўся,

што запусціў у самога Начальніка Кухні дрэнна прасмажанай цялячай нагой. Нага папала небараку ў лоб, і ён пасля гэтага тры дні праляжаў у ложку. Усе повары дрыжалі ад страху, калі гатавалі герцагу страву.

Але з паяўленнем Карліка Носа ўсё змянілася. Герцаг цяпер еў не тры разы ў дзень, як раней, а пяць разоў, і толькі пахвальваў майстэрства карліка. Усё здавалася яму вельмі смачным, і ён рабіўся дзень са дня таўсцей. Ён часта запрашаў карліка да свайго стала, разам з Начальнікам Кухні і прымушаў іх пакаштаваць стравы, якія яны прыгатавалі.

Жыхары горада не маглі надзівіцца на гэтага выдатнага карліка. Кожны дзень ля дзвярэй палацавай кухні таўпілася мноства народу—усе прасілі і ўмалялі галоўнага повара, каб ён дазволіў хоць адным вокам паглядзець, як карлік гатуе стравы. А гарадскія багацеі наперабой дабіваліся ў герцага дазволу пасылаць на яго кухню сваіх павароў, каб яны маглі вучыцца ў карліка гатаваць. Гэта давала карліку нямалы даход—за кожнага вучня яму плацілі ў дзень па поўдуката, але ён аддаваў усе грошы іншым паварам, каб яны яму не зайздросцілі.

Так Якаў пражыў у палацы гады два. Ён быў-бы, бадай, нават здаволен сваім лёсам, калі-б так часта не ўспамінаў аб бацьку і матцы, якія не прызналі яго і выгналі з дому. Толькі гэта яго і засмучала. І вось аднойчы з ім здарыўся такі выпадак.

Карлік Нос вельмі добра ўмеў купляць пры-

пасы. Ён заўсёды сам хадзіў на рынак і выбіраў для герцагскага стала гусей, качак, зелень і гародніну. Неяк раз, раніцой, ён пайшоў на базар за гусямі і доўга не мог знайсці дастаткова тлустых птушак. Ён некалькі разоў прайшоўся па базару, выбіраючы лепшага гуся. Цяпер ужо ніхто не смяяўся над карлікам. Усе нізка яму кланяліся і пачціва ўступалі дарогу. Кожная гандлярка была-б шчасліва, калі-б ён купіў у яе гуся.

Ходзячы ўзад і ўперад па рыначнай плошчы, Якаў раптам заўважыў у канцы базара, у баку ад іншых гандлярак, адну жанчыну, якой не бачыў раней. Яна таксама прадавала гусей, але не расхвальвала свой тавар, як іншыя, а сядзела моўчкі, не гаворачы ні слова. Якаў падышоў да гэтай жанчыны і агледзеў яе гусей. Яны былі якраз такія, як ён хацеў. Якаў купіў тры птушкі разам з клеткай—двух гусакоў і адну—гуску,—паставіў клетку на плячо і пайшоў назад у палац. І раптам ён заўважыў, што дзве птушкі гагочуць і хлопаюць крыллямі, як належыць добрым гусакам, а трэцяя—гуска—сядзіць ціха і нават як быццам уздыхае.

«Гэтая гуска хворая,—падумаў Якаў.—Як толькі прыду ў палац, зараз-жа загадаю яе прырэзаць, пакуль яна не падохла».

І раптам птушка, нібы разгадаўшы яго думкі, выразна і гучна сказала:

Ты не рэж мяне—
Заклюю цябе.
Калі шыю мне звярнеш,—
Раней часу памрэш.



Як толькі ў Якава выдавалася вольная мінутка, ён прыбягаў да Мімі пагутарыць.

Якаў ледзь не выпусціў клетку.

— Вось цуды!—закрычаў ён.—Вы, аказваецца, умееце гаварыць, пані гусыня? Не бойцеся, такую цікавую птушку я не заб'ю. Гатоў ісці ў заклад, што ты не заўсёды хадзіла ў гусіных пер'ях. Бо быў-жа і я калісьці маленькай вавёрачкай.

— Твая праўда,—адказала гуска.—Я не радзілася птушкай. Ніхто не думаў, што Мімі, дачка вялікага Ветэрбока, кончыць жыццё пад нажом повара на кухенным стале.

— Не турбуйцеся, дарагая Мімі!—усклікнуў Якаў.—Не будзь я сумленны чалавек і галоўны повар яго светласці, калі да вас хтонебудзь дакранецца нажом! Вы будзеце жыць у прыгожай клетцы ў мяне ў пакоі, і я стану вас карміць і гутарыць з вамі. А іншым паварам я скажу, што адкармліваю гуся асобымі травамі для самога герцага. І, убачыце, не пройдзе месяца, як я прыдумаю спосаб выпусціць вас на волю.

Мімі з слязамі на вачах падзякавала карліка, і Якаў выканаў усё, што абяцаў. Ён сказаў на кухні, што будзе адкармліваць гуску асобым спосабам, якога ніхто не ведае, і паставіў яе клетку ў сябе ў пакоі. Мімі атрымлівала не гусіную ежу, а пячэнне, цукеркі і ўсякія ласункі, і як толькі ў Якава выдавалася вольная мінутка, ён зараз-жа прыбягаў да яе пагутарыць.

Мімі расказала Якаву, што яе ператварыла ў гуску і занесла ў гэты горад адна старая чараўніца, з якой калісьці пасварыўся яе бацька, славуты чараўнік Ветэрбок. Карлік

таксама расказаў Мімі сваю гісторыю, і Мімі сказала:

— Я што-кольвечы разумею ў чараўніцтве,— мой бацька крыху вучыў мяне сваёй мудрасці. Я здагадваюся, што бабуля зачаравала цябе чароўнай траўкай, якую яна паклала ў суп, калі ты прынёс ёй дамоў капусту. Калі ты знойдзеш гэтую траўку і панюхаеш яе, ты, магчыма, зноў станеш такім-жа, як усе людзі.

Гэта, вядома, не асабліва ўцешыла карліка.

— Як-жа ён мог знайсці гэтую траўку? Але ў яго ўсё-такі паявілася маленькая надзея.

Праз некалькі дзён пасля гэтага да герцага прыехаў пагасціць адзін князь—яго сусед і друг. Герцаг зараз-жа паклікаў да сябе карліка і сказаў яму:

— Цяпер прышоў час паказаць, ці аддана ты мне служыш і ці добра ведаеш сваю справу. Гэты князь, які прыехаў да мяне ў госці, любіць добра пад'есці і разумее толк у гатаванні. Глядзі-ж—гатуй нам такія стравы, каб князь кожны дзень здзіўляўся. І не ўздумай, пакуль князь у мяне ў гасцях, два разы падаць на стол адну страву. Тады табе не будзе літасці. Бяры ў майго казначэя ўсё, што табе спатрэбіцца,—хоць золата запечанае нам падавай, толькі-б не асароміцца перад князем.

— Не турбуйцеся, ваша светласць,—адказаў Якаў, нізка кланяючыся.—Я ўжо сумею дагадзіць вашаму ласуну-князю.

І Карлік Нос горача ўзяўся за работу. Цэлы дзень ён стаяў у палаючай пліты і беспера-

пынна аддаваў загады сваім тоненькім голасам. Натоўп павароў і паварат мітусіўся па кухні, ловячы кожнае яго слова. Якаў не шкадаваў ні сябе, ні другіх, каб дагадзіць свайму гаспадару. .

Ужо два тыдні гасціў князь у герцага. Яны елі не менш чым па пяць разоў у дзень, і герцаг быў у захапленні. Ён бачыў, што яго гасцю падабаецца гатаванне карліка. На пятнаццаты дзень герцаг паклікаў Якава ў сталовую, паказаў яго князю і запытаў, ці задаволен князь майстэрствам яго повара.

— Ты вельмі добра гатуеш,—сказаў князь карліку,—і разумееш, што значыць добра есці. За ўвесь час, пакуль я тут, ты ні адной стравы не падаў на стол два разы, і ўсё было вельмі смачна. Але скажы мне: чаму ты да гэтага часу не пачаставаў нас Пірагом Каралевы? Гэта самы смачны пірог на свеце.

У карліка ўпала сэрца: ён ніколі не чуў аб такім пірагу? Але ён і выгляду не паказаў, што збянтэжан, і адказаў:

— О, пан, я спадзяваўся, што вы яшчэ доўга прабудзеце ў нас, і хацеў пачаставаць вас гэтым пірагом на развітанне. Гэта-ж— кароль усіх пірагоў, як вы самі добра ведаеце.

— Ах, вось як!—сказаў герцаг і рассмяяўся.—Ты-ж і мяне ні разу не пачаставаў Пірагом Каралевы. Напэўна, ты спячэш яго ў дзень маёй смерці, каб апошні раз пабалаваць мяне. Але прыдумай на гэты выпадак якую-небудзь іншую страву! А Пірог Каралевы каб заўтра быў на стале! Чуеш?

— Слухаюся, пан герцаг,—адказаў Якаў і вышаў, заклапочаны і засмучаны. Вось калі наступіў дзень яго ганьбы! Адкуль ён ведае, як пякуць гэты пірог?

Ён пайшоў у свой пакой і пачаў горка плакаць. Мімі ўбачыла гэта з сваёй клеткі і пашкадавала яго.

— Аб чым ты плачаш, Якаў?—запытала яна, і, калі Якаў расказаў ёй пра Пірог Каралевы, яна сказала:

— Вытры слёзы і не сумуй. Гэты пірог часта падавалі ў нас дома, і я, здаецца, помню, як яго трэба пячы. Вазьмі столькі вось мукі і пакладзі яшчэ такую вось і такую вось прыправу—вось пірог і гатоў. А калі ў ім чаго-небудзь і нехопіць—бяда невялікая. Герцаг з князем усёроўна не заўважаць. Не такі ўжо ў іх разборлівы смак.

Карлік Нос падскочыў ад радасці і зараз-жа ўзяўся пячы пірог. Спачатку ён зрабіў маленькі піражок і даў яго паспрабаваць Начальніку Кухні. Той знайшоў, што атрымалася вельмі смачна. Тады Якаў спёк вялікі пірог і прама з печы паслаў яго да стала. А сам надзеў сваё святочнае плацце і пайшоў у сталовую паглядзець, як герцагу з князем спадабаецца гэты новы пірог.

Калі ён уваходзіў, дварэцкі якраз адрэзаў вялікі кавалак пірага і на сярэбранай лапатачцы падаў яго князю, а потым, другі такі-ж—герцагу. Герцаг адкусіў адразу поўкавалка, пражаваў пірог, праглынуў яго і са здаволеным выглядам адкінуўся на спінку крэсла.

— Ах, як смачна!—усклікнуў ён.—Недарма гэты пірог называюць каралём усіх пірагоў. Але і мой карлік—кароль усіх павароў. Ці не праўда, князь?

Князь асцярожна адкусіў маленечкі кавалачак, добра пражаваў яго, расцёр языком і сказаў, спагадліва ўсміхаючыся і адсоўваючы талерку:

— Нядрэнная яда! Але толькі яму далёка да Пірага Каралевы. Я так і думаў!

Герцаг пачырванеў ад дасады і сярдзіта нахмурыўся.

— Паганы карлік!—закрычаў ён.—Як ты смееў так зганьбіць свайго пана? За такое гатаванне табе патрэбна было-б адсячы тваю тоўстую галаву.

— Пан!—закрычаў карлік, падаючы на калені.—Я спёк гэты пірог, як належыць. У яго пакладзена ўсё, што патрэбна.

— Ты ілжэш, нягоднік!—закрычаў герцаг і адштурхнуў карліка нагой.—Мой госць не стаў-бы дарэмна гаварыць, што ў пірагу чагосьці нехапае. Я цябе самога загадаю размалоць і запячы ў пірог, урод ты гэтакі!

— Змілуйцеся нада мною!—жаласна закрычаў карлік, хапаючы князя за полы яго плацця.—Не дайце мне памерці з-за жмені мукі і мяса. Скажыце, чаго нехапае ў гэтым пірагу, чым ён вам так не спадабаўся?

— Гэта мала табе дапаможа, мой мілы Нос,—адказаў князь са смехам. Я ўжо ўчора падумаў, што табе не спячы гэтага пірага так, як яго пячэ мой повар. У ім нехапае адной траўкі, якой у вас ніхто не ведае. Яна назы-

ваецца Чыхай на здароўе. Без гэтай траўкі ў Пірагу Каралевы не той смак, і твайму пану ніколі не прыдзецца пакаштаваць яго такім, як яго робяць у мяне.

— Не, я яго пакаштую, і вельмі хутка!—закрычаў герцаг.—Клянуся маім герцагскім гонарам, або вы заўтра ўбачыце на стале такі пірог, або галава гэтага нягодніка будзе тырчаць на варотах майго палаца. Пайшоў вон, сабака! Даю табе тэрміну дваццаць чатыры гадзіны, каб выратаваць тваё жыццё.

Бедны карлік, горка плачучы, пайшоў да сябе ў пакой і паскардзіўся гусцы на сваё гора. Цяпер ужо яму не мінуць смерці! Ён-жа ніколі і не чуў аб траве, якая называецца Чыхай на здароўе.

— Калі ў гэтым уся справа,—сказала Мімі,—дык я магу табе дапамагчы. Мой бацька навучыў мяне пазнаваць усе травы. Будзь гэта тыдні два назад, табе, магчыма, і сапраўды пагражала-б смерць, але, на шчасце, цяпер якраз маладзік, а ў гэты час іменна і цвіце тая трава. Ёсць дзе-небудзь каля палаца старыя каштаны?

— Так, так!—радасна закрычаў карлік.— У саду, зусім блізка адсюль, расце некалькі каштаноў. Але для чаго яны табе?

— Гэтая трава,—адказала Мімі,—расце толькі пад старымі каштанамі. Не будзем дарэмна траціць час і пойдзем зараз-жа яе шукаць. Вазьмі мяне на рукі і вынесі з палаца.

Карлік узяў Мімі на рукі, падышоў з ёй да варот палаца і хацеў выйсці. Але вартаўнік перагарадзіў яму дарогу і сказаў:

— Не, мой мілы Нос, скончаны твае прагулкі. Мне строга-на-строга загадана не выпускаць цябе.

— Няўжо мне і ў саду нельга пагуляць?— запытаў карлік.—Будзь ласкавы, пашлі каго-небудзь да Наглядчыка і запытай, ці можна мне хадзіць па саду і збіраць травы.

Вартаўнік паслаў запытаць Наглядчыка, і Наглядчык дазволіў: сад-жа быў абнесен высокай сцяной, і ўцячы з яго было немагчыма.

Вышаўшы ў сад, карлік асцярожна паставіў Мімі на зямлю, і яна, кульгаючы, пабегла да каштаноў, якія раслі на беразе возера. Якаў, зажурыўшыся, ішоў за ёю.

«Калі Мімі не знойдзе той траўкі,—думаў ён,—я ўтаплюся ў возеры. Гэта ўсё-такі лепш, чым даць адсячы сабе галаву.

А між тым Мімі пабывала пад кожным каштаном, перавярнула дзюбай усякую былінку, але дарэмна—траўкі Чыхай на здароўе нідзе не было відаць. Гуска ад гора нават заплакала.

Набліжаўся вечар, цямнела, і станавілася ўсё цяжэй адрозніваць сцяблы травы. Выпадкова карлік зірнуў на другі бераг возера і радасна закрычаў:

— Паглядзі, Мімі: бачыш, на тым баку яшчэ адзін вялікі стары каштан! Пойдзем туды і пашукаем. Магчыма, пад ім расце маё шчасце.

Гуска цяжка захлопала крыллямі, паднялася ў паветра і паляцела, а карлік з усіх сіл пабег за ёю на сваіх маленькіх ножках. Перайшоўшы праз мост, ён падышоў да каш-

гана. Каштан быў густы і развесісты; пад ім, у пацёмку, амаль нічога не было відаць. І раптам Мімі замахала крыллямі і нават падскочыла ад радасці. Яна быстра сунула дзюбу ў траву, сарвала якуюсьці кветку і сказала, падаючы яе Якаву:

— Вось трава Чыхай на здароўе. Тут яе расце много-многа, так што табе надоўга хопіць.

Карлік узяў кветку ў рукі і задуменна паглядзеў на яе. Ад яе ішоў моцны, прыемны пах, і Якаву чамусьці ўспомнілася, як ён стаяў у бабулі ў кладоўцы, падбіраючы травы, каб начыніць імі курыцу, і знайшоў такую-ж кветку—з зеленаватай сцяблінкай і яркачырвонай галоўкай, упрыгожанай жоўтай каймой.

І раптам Якаў увесь задрыжаў ад хвалявання.

— Ведаеш, Мімі, закрычаў ён,—гэта, здаецца, тая самая кветка, якая ператварыла мяне з вавёркі ў карліка. Паспрабую вось я яе панюхаць.

— Пачакай крышку,—сказала Мімі.—Вазьмі з сабой пучок гэтых кветак і вернемся да цябе ў пакой. Збяры свае грошы і ўсё, што ты нажыў, пакуль служыў у герцага, а потым выпрабуем сілу гэтай кветкі.

Якаў паслухаўся Мімі, хоць сэрца ў яго гучна стукала ад нецярплівасці. Ён бегам прыбег да сябе ў пакой. Завязаўшы ў клунак сотню дукатаў і некалькі пар плацця, ён сунуў свой доўгі нос у кветкі і панюхаў іх. І раптам усе яго суставы затрашчэлі, шыя

выцягнулася, галава адразу паднялася з плеч, нос пачаў рабіцца ўсё меншым і меншым, а ногі ўсё даўжэй і даўжэй, спіна і грудзі вы-раўняліся, і ён стаў такім-жа, як і ўсе людзі.

Мімі з вялікім здзіўленнем глядзела на Якава.

— Які ты стаў рослы і прыгожы!—закрычала яна.—Ты цяпер зусім не падобен на карліка.

Якаў вельмі ўзрадаваўся. Яму захацелася зараз-жа бегчы да бацькоў і паказацца ім, але ён помніў аб сваёй выратавальніцы.

— Не будзь цябе, дарагая Мімі,—я-б на ўсё жыццё астаўся карлікам і, магчыма, памёр-бы пад сякерай палача,—сказаў ён, пяшчотна пагладжваючы гуску па спіне і па крыллях.—Я павінен табе аддзякаваць. Я адвязу цябе да твайго бацькі, і ён цябе расчаруе. Ён-жа разумней усіх чараўнікоў.

Мімі залілася слязмі ад радасці, і Якаў узяў яе на рукі і прыціснуў да грудзей. Ён непрыкметна вышаў з палаца—ні адзін чалавек не пазнаў яго—і адправіўся з Мімі да мора, на востраў Готланд, дзе жыў яе бацька, чараўнік Ветэрбок.

Яны доўга падарожнічалі і, нарэшце, дабраліся да гэтага вострава. Ветэрбок зараз-жа зняў чары з Мімі і даў Якаву многа грошай і падарункаў. Якаў неадкладна вярнуўся ў свой родны горад. Цяпер бацька і маці з радасцю сустрэлі яго,—ён-жа стаў такі прыгожы і прывёз столькі грошай.

Трэба яшчэ расказаць пра герцага. Раніцой, на другі дзень, герцаг рашыў выканаць

сваю пагрозу і адсячы карліку галаву, калі ён не знайшоў той травы, аб якой гаварыў князь. Але Якава нідзе не маглі знайсці. Тады князь сказаў, што герцаг знарок схаваў карліка, каб не страціць свайго лепшага повара, і назваў яго ашуканцам. Герцаг страшна раззлаваўся і аб'явіў князю вайну. Пасля многіх боек і сражэнняў яны, нарэшце, памірыліся, і князь, каб адсвяткаваць мір, загадаў свайму повару спячы сапраўдны П і р о г К а р а л е в ы. Гэты мір паміж імі так і назвалі «Пірожны мір».

Вось і ўся казка аб Карліку Носе.

---

Рэдактар перакладу *Парамонаў*
Літпраўка *Булат*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Карэктар *П. Саракалетаў*

Здана ў друкарню 28/III—38 г. Падпісана да друку 31/VII—38 г. Аб'ём $1^3/_8$ друкаваных аркушаў. Папера $84\times108^1/_{32}$. Тыраж 7.000 экз. Уп. Галоўліта № 4130. Зак. друк. № 3337.

Друкарня імя Сталіна.
Менск, Дом Друку.



